*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 23(131) ◆ 9 чэрвеня 1993 г. ◆ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



3 чэрвеня ў Доме літаратара па ініцыятыве Камісіі БНФ па культуры і гісторыі створаны Нацыянальны Арганізацыйны камітэт па святкаванні 200-х угодкаў Вызвольнага Паўстання 1794 года на Беларусі.

У склад Аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі БНФ «Адраджэньне», Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Згуртавання Беларускай Шляхты, Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай Сялянскай партыі, Беларускага Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л. Сапегі, Акадэміі навук Беларусі, Беларускага Краязнаўчага таварыства, Камісіі па культуры Менгарсавета, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза мастакоў Беларусі, Саюза кампазітараў Беларусі, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Жаночага Хрысціянска-дэмакратычнага Руху Беларусі, Беларускай Грэка-каталіцкай царквы, Беларускага Эвангелічнага Рэфармацкага Збору, Выбранецкіх шыхтоў Беларусі.

Старшынёй Аргкамітэта абраны Мікола Купава — сябра Саюза мастакоў Беларусі.

На пасяджэнні Аргкамітэта створаны рэдакцыйная, выдавецка-інфармацыйная, пошукава-мемарыяльная, навуковая камісіі, разгледжана магчымая праграма святкавання.

Аргкамітэт прапануе асноўныя мерапрыемствы святочнай праграмы правесці на Беларусі ў красавіку—верасні 1994 года.

◆

**3 ЧЭРВЕНЯ Ў БУДЫНКУ ФІЛАЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА ГАРАДЗЕНСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА АДБЫЛАСЯ ПЕРШАЯ АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ.** Присутнічала 59 дэлегатаў ад усіх раёнаў Гарадзеншчыны. Утворана Гарадзенская абласная філія ТБМ імя Ф. Скарыны. Выбрана рада. Старшынёй рады абраны прафесар універсітэта Сцяцко Павел Уладзіміравіч, наместнікамі — падпалкоўнік Станіслаў Суднік і інспектар аблуна Прадзед Тамара Рыгораўна.

Прыняты звароты да дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ, Гарадзенскага абласнога Савета і народа Рэспублікі Беларусь.

◆

4—6 чэрвеня ў Маладзечне прайшоў Першы фестываль беларускай песні і паэзіі. Было на што паглядзець і паслухаць. Гран-пры фестывалю атрымала вядомая спявачка Алёна Саўленайтэ.

◆

*У Доме літаратара адбылася вечарына памяці М. Багдановіча, якую наладзіў клуб «Спадчына». Перад прысутнымі выступілі Р. Барадулін, А. Белы, А. Калубовіч, кампазітары З. Яўтуховіч, Г. Смоляк, бард У. Палупанаў, дзіцячая студыя «Буслік» і ансамбль «Сябры». Працавала выстава, прысвечаная М. Багдановічу (з калекцыі А. Белага).*

**Палешукі — людзі разважлівыя** Стар. 2.

**Каб пазбавіцца рабства душы** Стар. 3, 6

**Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах** Стар. 7.

*Урад Рэспублікі Беларусь выдзеліў Менскаму гарвыканкаму 250 тысяч рублёў на ўзвядзенне помніка на магіле былога Генеральнага пракурора рэспублікі М. І. Ігнатовіча.*

## Нас зноў ашукваюць?

Камуністычная большасць нашага Вярхоўнага Савета ўсімі сіламі і сродкамі імкнецца ўцягнуць Беларусь у ваенны саюз. Прыхільнікі гэтага саюза з высокай трыбуны запэўнівалі беларускі народ, што нашы Узброеныя сілы прападуць без Расіі, што ў нас няма сваёй зброі. Але ж вазьміце газету «Звязда», № 86, пачытайце артыкул «Беларуская зброя — Таджыкістану. Як падарунак. Або доўг». Аказваецца, Беларусь пастаўляе ў Таджыкістан, дзе палаюць ваенныя канфлікты, дзе гіне мірнае насельніцтва, зброю і боепрыпасы. Пастаўляе ў выглядзе дзяржаўнага крэдыту. Выходзіць, зброі ў нас навалам, калі яе бясплатна аддаюць другой краіне. Зноў нас ашукалі?

Калі, яшчэ не заключыўшы саюзу, мы ўжо пастаўляем зброю, то хто дасць гарантыю, што не пачнуць пхаць у ваеннае кола і беларускіх юнакоў. Але хопіць з нас пакут.

Мікалай ЛЕНКАВЕЦ.
г.Ганцавічы.




## Каму належаць храмы?

11 траўня каля Менскага гарсавета можна было бачыць купку людзей, у асноўным жанчын, якія стаялі з распяцем каля дзвярэй згаданай установы. Гэта — каталікі. Яны з малітвамі на вуснах прыйшлі прасіць, каб ім вярнулі кафедральны касцёл Прасвятой Дзевы Марыі, які ў 1948 годзе ў іх забраў Савет Міністраў і перадаў Савету прафсаюзаў рэспублікі, а апошні размясціў там фізкультурнікаў. Будынак XVIII стагоддзя зараз знаходзіцца ў аварыйным стане... Вернікі дамовіліся з фізкультурнікамі, што апошнія перададуць ім будынак, калі самі пераедуць на новае месца. Такім чынам, вернікі змагаюцца не толькі за адабраную ў іх маёмасць, але і за будучыню спартсменаў, бо ў старым будынку цяпер нават небяспечна знаходзіцца.

Паўлюк ЛОСЬ.

*У Менску адбыўся пленум Цэнтральнай рады БСДГ. На ім абмеркаваны шматлікія пытанні, якія тычацца цяперашняга жыцця ў краіне.*

## Пратэстуюць «Выбранецкія шыхты»

*Гэта маладзёжная патрыятычная арганізацыя распаўсюдзіла заяву, у якой, у прыватнасці, паведамляецца:*

«Рашуча пратэстуем супраць юрыдычнага замацавання за расійскай мовай статуса другой дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь. Гісторыя сведчыць, што на практыцы афіцыйная двухмоўнасць заўсёды азначала суцэльнае панаванне мовы расійскай і звужэнне сферы ўжытку мовы беларускай. Менавіта двухмоўнасць падвяла беларускую мову да рысы пагібелі. У выпадку зацвярджэння на дзяржаўным узроўні двухмоўнасці Рэспубліка Беларусь будзе адсунута са шляху суверэнітэту і незалежнасці да фактычнай перыферыі Расіі...

Толькі статус адзінай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь дапаможа беларускай мове выжыць!»

Погляд беларуса з замежжа

## А чыноўнікі — па-старому...

Нездарма кажуць, што які краіна мае чыноўны апарат, такая ў яе дзяржаўнасць. Мне гэта прыгадалася, калі атрымаў адказ на свае прапановы з Міністэрства энергетыкі на расійскай мове. А пісаў — звяртаўся ў Вярхоўны Савет Беларусі — на беларускай мове і тарашкевіцай. Вось так: я з Масквы па-беларуску, а чыноўнікі дзяржаўнай установы мне ў адказ з Бацькаўшчыны па-расійску. Быццам мы месцам жыхарства памяняліся. І крыўдна і агідна.

А звяртаўся я ў Вярхоўны Савет з прапановамі больш рашуча пракантраляваць пераход справаводства дзяржаўных установ (у тым ліку прафесійна блізкага мне Міністэрства энергетыкі) на беларускую мову, а тых чыноўнікаў, што ігнаруюць законы, «узнагароджваць» штрафамі (як у Летуве). У першую ж чаргу зрабіць, нарэшце, самае лёгкае — змяніць шыльды і розныя надпісы на беларускія.

А яшчэ вельмі добра было б змяніць дыскрэдытаваную назву «савет» (як орган прадстаўнічай улады) на беларускую старажытную «Раду».

З добрымі пажаданнямі рэдакцыі і суродзічам-беларусам —

**Лявон ЦАГЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат тэхнічных навук, сябра Маскоўскага таварыства беларускай культуры і суполкі БНФ.**
п. Газаправод
Маскоўскай вобл.



**Пра міжнародны семінар «Лекцыянарый і біблійны пераклад», які адбыўся ў Менску, чытайце на 4-й і 7-й старонках артыкула Лявона Ліпеня «Ці будзм мець беларускую Біблію?»**

**На здымку:** кансультант Аб'яднаных Біблійных таварыстваў айцец Сяргей Аўсяннікаў выступае на семінары ў Менску.

Меркаванні

# Палешукі — людзі разважлівыя

Напісаць гэты ліст мяне падштурхнуў артыкул Ю. Хадыкі «Не палешукі, а беларусы», надрукаваны ў № 17 «Нашага слова» за г. г. А паразважаць хачу пра тых, хто стаіць за спінай С. Давыдзюка і кампаніі,— групу «Полісьсе» і яе лідэра Міколу Шаляговіча. Цікавіцца гэтай групай я пачаў яшчэ ў 1990 годзе. Тады нацыянальнае адраджэнне толькі набірала сілу і ўсё было ў навіну. Трэба сказаць, што я заўсёды лічыў: палескія гаворкі — гэтыя непаўторныя дыялекты беларуска-ўкраінскага памежжа — трэба берагчы, бо з іх чэрпае і сілкуецца, зрэшты, як і з іншых дыялектаў, беларуская агульнанацыянальная мова. Напачатку мяне не вельмі трывожыла тое, што мову «Збудіння» вельмі цяжка было назваць заходнепалескай: яна была дрэнна зразумелай у народзе, цяжка ўспрымалася; прынамсі, у нас на Піншчыне так не гавораць ні ў адной вёсцы. Думалася, усё гэта хваробы росту.

Зрэшты, гэтай мовай друкавалася толькі палова матэрыялаў газеты «Збудінне», астатняя палова — расійскай, зрэдку ўкраінскай (беларускай амаль не было). Ды з цягам часу публікацыі «Збудіння» набывалі ўсё больш антыбеларускі характар, беларусы абвінавачваліся ў гвалтоўнай асіміляцыі палешукоў (аб русіфікатарскай палітыцы бальшавікоў на працягу апошніх 50 гадоў Шаляговіч і К° перасталі згадваць наогул). Далей — болей. Стала вядома аб заігрываньні Шаляговіча з камуністычнымі ўладамі БССР, аб пікетаванні ім Пінскага гарсавета з антыбеларускімі лозунгамі, аб выключэнні з ГКЗ «Полісьсе» Драгічынскай суполкі толькі за тое, што сябры яе не пажадалі выйсці з БНФ (дзейнасць Беларускага Народнага Фронту заўсёды выклікала ў шалягоўцаў асаблівую нянавісць). Так што з'яўленне Шаляговіча ў складзе «новага ГКЧП» (я маю на ўвазе ўключэнне ў радыёпраграму «Беларуская маладзёжная» 19 сакавіка г. г. выступленняў прадстаўнікоў каля двух дзесяткаў партый і рухаў бальшавіцкага і фашысцкага накірунку, што пазней аб'ядналіся ў гэтак званы «народны рух») для мяне не было нечаканасцю. Здзівіла іншае: у сваім выступленні Шаляговіч не надта напіраў на «гаротны стан» палешукоў на Беларусі (надуманасць гэтай праблемы, відаць, усведамляе нават ён), а кінуўся абараняць інтарэсы расійскамоўнай меншасці, ды з такім імпэтам, якога не праявіў нават прадстаўнік «Славянскага сабора». Шкада, што не слухаюць беларускае радыё расійцы ў Прыбалтыцы, інакш яны адразу перасталі б канфліктаваць з уладамі Латвіі ды Эстоніі, бо падумалі б, што ёсць краіны, дзе іх крыўдзяць яшчэ больш.

І ўсё-такі, чым так напалохалі шалягоўцаў «беларускія нацыяналісты», што тыя кінуліся ў абдымкі да сваіх былых ворагаў — бальшавікоў? На мой погляд, справа тут не ў страху. ГКЗ «Полісьсе» грамадскім рухам у поўным сэнсе слова не з'яўляецца, надта яно нешматлікае. Самі палешукі пра яго дзейнасць амаль нічога не ведаюць, тым больш, што большая частка актыўных сяброў групы жыве і працуе ў Менску. Ды і аб якой масавай падтрымцы можа ісці гаворка, калі нават на сваёй радзіме — Драгічыншчыне — Шаляговіч не знайшоў аднадумцаў? Калі верыць паведамленню радыё «Свабода», то летам 1991 года Шаляговіч меў размову з вышэйшым кіраўніцтвам Беларусі, і яму была абяцана сякая-такая дапамога. З гэтага моманту іх антыбеларускія і антыфронтаўскія захады сталі ўсё больш адкрытымі і актыўнымі. Не спыніла іх і паражэнне жнівеньскага путчу. Наадварот, шалягоўцы сталі ўсё больш збліжацца з бальшавікамі, тым больш, што тыя карысталіся падтрымкай урада і, відаць, маюць немалыя матэрыяльныя сродкі.

А цяпер галоўнае пытанне: каму гэта патрэбна? Не сакрэт, што імперскія сілы ў былым СССР робяць стаўку на распальванне нацыянальнай варожасці ў новаўтвораных дзяржавах, каб развязаць у іх крывавыя войны, аслабіць іх і ўрэшце далучыць да «единой и неделимой». Нешта падобнае адбываецца і ў нас. Нездарма «віленскі заступнік» Сямёнаў яшчэ ў бытнасць сваю сакратаром Гродзенскага абкама КПСС усяляк песціў палякаў, ствараў ім рэжым найбольшага спрыяння, у той час як беларуская мова была амаль што пад забаронай. На шчасце, флірт з палякамі камуністам не ўдаўся, прадстаўнікі Саюза палякаў Беларусі вельмі насцярожана адносяцца да іх. І вось тут як нельга дарэчы прыйшлося камуністам ГКЗ «Полісьсе». Мэта ў іх простая: у выпадку перамогі нацыянальна-дэмакратычных сіл у Беларусі паспрабаваць падняць путч у заходнепалескім рэгіёне. Вось тут і спатрэбіцца Шаляговіч з кампаніяй, каб прыдаць ураду новаўторанай рэспублікі нейкую нацыянальную афарбоўку. Толькі няхай шалягоўцы не цешаць сябе марнымі надзеямі: бальшавікам яны хутка стануць непатрэбнымі, і тыя знойдуць спосаб, каб пазбавіцца сваіх былых хаўруснікаў. У гісторыі былога СССР такіх прыкладаў шмат. Толькі, відаць, такіх, як Шаляговіч, гісторыя нічому не вучыць.

І ўсё ж, я думаю, да гэтага не дойдзе. Палешукі — разважлівыя людзі і кідацца ў розныя авантуры не будуць. Тое, што ў бальшавікоў удалося ў Малдове, Абхазіі ды Таджыкістане, у Беларусі не пройдзе.

Адам ДРОЗД.

г. Гомель.




## У добры «Шлях»!

У Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравана былая самвыдатаўская газета «Шлях». Гэта рэгіянальнае выданне, якое распаўсюджваецца на Беларусі, у Польшчы, «а таксама там, дзе жывуць беларусы». Газета друкуецца на беларускай, польскай, расійскай і ўкраінскай мовах. Заснавальнікі «Шляху» — Берасцейская рэгіянальная рада БНФ, філіял фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі, Берасцейская філія БСДГ, грамадскае аб'яднанне «Стары горад» і МП «Арніка».

## Вяртаюць святыні

16 траўня адбылася ўрачыстая перадача з варшаўскага ў берасцейскі касцёл іконы уніяцкага святога Андрэя Баболя. Свята адбылося на месцы былой капліцы Андрэя Баболя ў Янаве, дзе спачывалі мошчы святога. Пасля кастрычніцкага перавароту капліца была зруйнавана, а мошчы трапілі ў Маскоўскі музей атэізму. Ватыкану каштавала шмат намаганняў забраць гэтыя святыні адтуль.

## Яшчэ адзін цэнтр

У Берасці ствараецца асветна-культурны цэнтр. «Бацькамі» новага асяродка культуры з'яўляюцца таварыства «Веды», часопіс «Беларуская думка» і таварыства «Радзіма». Аднак у горадзе ўжо існуе Беларускі гуманітарны агульнаадукацыйны культурны цэнтр. Праўда, ён не займаецца камуністычнай дзейнасцю.

Адась КРАШЭЎСКІ.

## Грошы «Талацэ»

Камісія Гомельскага гарадскога савета па культуры і захаванні гістарычнай спадчыны пастанавіла выдаткаваць 90 тысяч рублёў гомельскай выбранецкай брыгадзе «Талака» на ажыццяўленне экспедыцый і вандровак.

Зміцер САСНОЎСКІ.

## Беларуская мова ў маскоўскім касцёле

У касцёле святога Людовіка, які знаходзіцца ў сталіцы Расіі, адбываюцца набажэнствы на некалькіх мовах, у тым ліку і на беларускай. Службу па-беларуску адпраўляе Тадэвуш Кандрусевіч. А ці чулі вы беларускае слова ў хоць якой нашай праваслаўнай царкве?

Меркаванні

# НАЦЫЯНАЛІЗМ, ПАТРЫЯТЫЗМ,

Бадай, ніводзін тэрмін у гісторыка-філасофскай навуцы не інтэрпрэтуецца так адвольна, як паняцце «нацыяналізм». Пасля паяўлення на гістарычнай арэне марксізму, выхаду ў свет яго катэхізіса — «Маніфеста Камуністычнай партыі», дзе было запісана, што «рабочыя не маюць бацькаўшчыны», артадоксы-марксісты пачалі выпукляць «пралетарскі інтэрнацыяналізм» і адмоўна ставіцца да ўсяго, што непасрэдна звязвалася з паняццем нацыяналізму. Бальшавіцкія ідэолагі пайшлі значна далей за сваіх папярэднікаў. Для іх нацыяналізм увогуле стаў ці не галоўным ворагам у ажыццяўленні дактрыны так званай «перманентнай рэвалюцыі», а больш дакладна — гвалтоўнага заваявання ўсяго свету. І вось, прыкрываючыся флёрам інтэрнацыяналізму, бальшавіцкія ідэолагі адразу пасля кастрычніцкага перавароту, на словах не адмаўляючы права нацый на самавызначэнне, на справе душылі любыя спробы народаў будаваць сваю нацыянальную незалежную дзяржаву. Пра гэта яскрава сведчыць і спроба бальшавіцкіх артадоксаў тыпу Мяснікова, Кнорына, Ландэра затармазіць плынь бурнага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. Бессаромнае цкаванне нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, нігілісцкія адносіны да беларускай мовы, нацыянальнай культуры, гістарычнай спадчыны было татальным. Бальшавіцкія прыблуды ў Беларусі ператварылі паняцце «нацыяналізм» у нейкага небяспечнага монстра, які толькі і ведае, што эксплуатаваць бедны лапцюжны беларускі народ.

Нацыяналізм нельга разглядаць як абстрактную ідэю рэфлексіі, яго можна разглядаць у непасрэдным далучэнні да пэўнага аб'екта, якім з'яўляецца канкрэтная нацыя, а таксама ў розных суадносінах паміж нацыямі. Разглядаць нацыяналізм адасоблена, значыць, апынуцца ў палоне абстракцыі. Гэтае паняцце, як і паняцце «дэмакратыя» — складаныя ідэі, якія патрабуюць усебаковага вывучэння і даследавання.

У савецкім слоўніку замежных слоў чытаем: «Нацыяналізм — рэакцыйна-буржуазная або дробнабуржуазная ідэалогія і палітыка, якія заключаюцца ў прапагандзе нацыянальнай выключнасці і нацыянальнай перавагі...» Але: «Ад нацыяналізму трэба адрозніваць справядлівае і гістарычна-прагрэсіўнае імкненне да нацыянальнай незалежнасці прыгнечаных і каланіяльных народаў, якія змагаюцца за нацыянальнае вызваленне і самавызначэнне».

А вось як тлумачыць нацыяналізм «Філасофская энцыклапедыя»: «Нацыяналізм — буржуазная палітыка і ідэалогія ў нацыянальным пытанні, якая выражае класавыя інтарэсы буржуазіі». Ну, а як разумець паняцці «нацыянальная палітыка СССР», «нацыянальныя інтарэсы СССР»? СССР жа быў не нацыянальнай дзяржавай, а штучным кангламератам шматлікіх нацыянальнасцей. То якой нацыі інтарэсы ён выражаў?

Відаць, у аднаведнасці з ідэйнымі і палітычнымі напрамкамі нацыяналізму можна выдзеліць некалькі яго відаў: кансерватыўны, памяркоўны, прагрэсіўны, рэакцыйны, агрэсіўны і крайнія формы — шавінізм і расізм. Вядома, могуць быць і падвіды: кансерватыўна-памяркоўны, памяркоўна-прагрэсіўны, рэакцыйна-агрэсіўны і г. д. Аднак нельга прыпісваць той ці іншай нацыі пэўны від нацыяналізму як штосьці пастаяннае, застылае.

У прыродзе і грамадстве ўсё знаходзіцца ў развіцці. Гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі прагрэсіўны нацыяналізм у пэўных абставінах станавіўся агрэсіўным і наадварот. Але гэта ўжо чыста тэарэтычныя разважанні, якія павінны грунтавацца на шматлікіх фактах, высновах і доказах, навуковых доследах, выяўленні прычын. Навука і доказы, як вядома, засноўваюцца на пазнанні прычын, якія далі той ці іншы вынік, тую ці іншую з'яву.

Беларускі нацыяналізм можна аднесці да кансерватыўна-памяркоўнага напрамку. Ён значна адрозніваецца ад нацыяналізму нашых суседзяў — украінцаў, палякаў, расійцаў. Кансерватызму і памяркоўнасці беларускага нацыяналізму садзейнічаў не толькі псіхалагічны склад беларускай нацыі, але і гістарычныя фактары, якія, безумоўна, уплывалі на фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў. На тэрыторыі Беларусі вякамі вырашаліся глабальныя геапалітычныя праблемы, якія ўплывалі на тэрытарыяльную цэласнасць беларускай нацыі. Усё гэта рабілася нашымі суседзямі за спінай беларускага народа; супраць яго волі бяссаромна дзялілася этнічная тэрыторыя, а ў выніку сціраўся, бязлітасна вытраўляўся генетычны код беларускага этнасу, блякла нацыянальная самасвядомасць у пэўнай часткі народа. Канфесійнасць — руская праваслаўная царква і каталіцкі касцёл — таксама спрыялі пашырэнню ў Беларусі колькасці людзей без роду і племені. Скажам, хто быў праваслаўнага веравызнання, нярэдка лічыў сябе «рускім», пераважная большасць каталікоў — палякамі, хоць у сапраўднасці і тыя і другія былі карэннымі беларусамі. Нацыянальна абязлічаныя людзі часцей за іншых у сваіх карысліва-кар'ерысцкіх мэтах самахоць станавіліся янычарамі — духоўнымі калекамі, якія ганьбілі ўсё нацыянальнае, выслужваючыся перад вяльможным панам і «старшым братам», спрыялі тармажэнню нацыянальнага выспявання. Яскрава выяўляецца сутнасць псіхалогіі такіх людзей і зараз. Перафарбаваўшыся ў «саўковы» пер'яд у «звышінтэрнацыяналістаў», яны па інерцыі не могуць спыніцца ў «фарміраванні» «новай гістарычнай супольнасці» «гома савецікус», а больш дакладна — «гома русікус», але ўжо ў салжаніцынскай канцэпцыі, працягваючы палохаць недасведчаных «нацыяналістамі».

А на самай справе — хто такі нацыяналіст у еўрапейскім сэнсе гэтага слова? Гэта чалавек, які свядома адносіць сябе да пэўнай нацыі, любіць свой народ, матчыну мову, шануе нацыянальную культуру, беражэ гістарычную спадчыну, з павагай адносіцца да іншых нацый, іх моваў, нацыянальнай спадчыны.

Што да «рускага» нацыяналізму, то ён замешаны на заквасцы вялікадзяржаўных, імперскіх амбіцый. Ягоны феномен фарміраваўся вякамі падчас захопніцкіх войнаў і гвалтоўнага пашырэння тэрыторыі Расійскай імперыі. А верхаводы расійскага бальшавізму ў сваёй глабальнай знешняй палітыцы цалкам скапіравалі тыя імперскія агрэсіўныя замашкі на пашырэнне свайго ўплыву ў сусветным маштабе. Але прыкрылі іх заманлівай, прывабнай упакоўкай «пралетарскага інтэрнацыяналізму», прыдуманага Марксам у сваёй

 



# АБУДЖАЦЬ У ДЗЕЦЯХ СВЯТОЕ

Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр разам з гарадскім аддзелам народнай адукацыі Менска правялі навуковую вучнёўскую канферэнцыю «Мова. Гісторыя. Незалежнасць». Для ўдзелу запрашаліся ліцэісты і вучні 1Х-Х1 класаў сталічных школ, якія самастойна выканалі даследаванні па загадзя прапанаванай тэматыцы.

Урачыстым атрымалася адкрыццё канферэнцыі: ліцэісты выконвалі духоўныя песні, прагучала славутая «Пагоня» М. Багдановіча. Залу сардэчна віталі пісьменнік, вядомы гісторык М. Ермаловіч, кандыдат філалагічных навук, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Л. Баршчэўскі, выкладчык беларускай мовы ліцэя Вінцук Вячорка.

Старшакласнікі нашай 180-й школы доўга рыхтаваліся да канферэнцыі. Яшчэ ў першай чвэрці яны выканалі малюнкі да твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, з якіх склаўся цэлы альбом. Тут асабліва вызначыліся Андрэй Наважылаў (1Х «А»), Юля Новік (1Х «Б»), Аляксандр Емяльянаў (1Х «В»). У 1Х «А» класе (з паглыбленым вывучаннем беларускай мовы і літаратуры) адбылося абмеркаванне вучнямі твораў Я. Купалы і Я. Коласа, якое выйшла далёка за межы школьнай праграмы. У другой чвэрці 1Х «Б» клас правёў канферэнцыю «Абуджэнне грамадзянскай свядомасці і годнасці беларусаў пад уплывам творчасці Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча». У трэцяй чвэрці вучні дзевятых класаў (іх у школе маецца шэсць) выконвалі сваё першае літаратуразнаўчае даследаванне «Грамадзянскія матывы Ф. Багушэвіча ў лірыцы Цёткі». У выніку ў вучняў прыкметна ўзрасла цікавасць да роднай мовы і літаратуры, узмацнілася цікавасць да самастойнай творчай працы.

А ў красавіку ў нашай школе адбылася вучнёўская канферэнцыя «Мова. Гісторыя. Незалежнасць». Цікавыя паведамленні зрабілі вучаніца 1Х «А» класа Наталля Лашыцкая і Наталля Мічкова, вучань 1Х «В» класа Алег Барысевіч. Прыцягнулі ўвагу таксама выступленні вучняў 1Х «Б» класа Андрэя Герасімовіча («Гісторыя старажытнай беларускай літаратуры»), Таццяны Спешыц («Хто ён — аўтар «Слова пра паход Ігаравы»?»), Алены Осіпавай («Беларуская граматыка Браніслава Тарашкевіча»), Вольгі Коханавай, Наталлі Дабрынеўскай, Юліі Драньковай.

Пасля я прапанавала прысутным пазнаёміцца з вершамі нашых вучняў Ігната Вярэніча, Алёны Гуліс, Сяргея Канапелькі і Вольгі Тарасавай.

Усе вучні, хто выступіў з паведамленнямі, атрымалі кніжку Н. Думбадзе «Закон вечнасці» ў перакладзе на родную мову. А лепшыя работы пяці нашых вучняў былі прадстаўлены на навуковай вучнёўскай канферэнцыі ў Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры.

Відаць, найгалоўнейшы вынік усёй гэтай работы — прызнанне вучня 1Х «В» класа нашай школы Вадзіма Піўнева: «Цяпер, урэшце, я адчуваю сябе беларусам. І ганаруся гэтым!» Такую думку Вадзіма цалкам падзяляюць іншыя нашы вучні. Лічу, што абуджаць у дзяцей святое пачуццё вялікай любові да Бацькаўшчыны — першая задача кожнага сумленнага педагога.

**Ніна АЛЬШЭЎСКАЯ,**
**настаўніца беларускай мовы**
**і літаратуры СШ № 180 Менска,**
**кандыдат педагагічных навук.**

# Каб пазбавіцца рабства душы

*Мы шмат гаворым і пішам апошнім часам пра наша духоўнае адраджэнне. Маўляў, неабходна адраджаць родную мову, самабытную культуру, нацыянальную годнасць, гонар, а ў цэлым — беларускую самасвядомасць, бо толькі гэта дапаможа нам выжыць, захавацца ў гісторыі. А гэта магчыма пры ўмове, калі нацыянальная ідэя ахопіць шырокія пласты насельніцтва, дойдзе да кожнага сэрца. Вядома, што самасвядомасць беларускага народа моцна дэфармавана. Ён страціў важныя духоўныя арыенціры на гістарычным шляху, аб чым сведчыць такая распаўсюджаная ў грамадстве хвароба, як манкуртызм. Другая ўмова адраджэння: кожны павінен скінуць з сябе путы камуністычнай ідэалогіі, стаць духоўна незалежным, набыць годнасць асобы, прынцыпы высокай марал.і Працэс гэты — доўгі і складаны.*

*Пры савецкай уладзе выхаванне гарманічнага чалавека звязвалася з усталяваннем камуністычнай фармацыі, у наш складаны час — з дэмакратызацыяй і гуманізацыяй грамадства, нацыянальным выхаваннем і навучаннем у прыватнасці. Афіцыйна гэтай справай займаецца Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. А калі неафіцыйна, па закліку сэрца? І тут цяжка пераацаніць ролю шчырых энтузіястаў, якія непасрэдна працуюць дзеля таго, каб выхаванне і навучанне юнай змены ішло менавіта ў нацыянальным рэчышчы.*

*шчы. Сённяшняя наша гаворка — з загадчыцай навучальна-метадычнага аддзела Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей Валянцінай Юбко.*



**— Валянціна Адамаўна, Рэспубліканскі цэнтр працуе ўсяго некалькі гадоў. У мінулым годзе ён апублікаваў «Канцэпцыю эстэтычнага выхавання ў сістэме пазашкольнай работы», у якой былі сфармуляваны асноўныя прынцыпы гэтага выхавання на сучасным этапе «аднаўлення грамадства, выхаду яго з крызіснага стану». Ставіцца задача выхоўваць грамадзяніна, гаспадара і патрыёта на сваёй зямлі, кансалідаваць нацыю на ўздым духоўнай і матэрыяльнай культуры. Вядома, што Рэспубліканскі цэнтр — разгалінаваная структура, у яго ўваходзіць некалькі эксперыментальна-творчых аб'яднанняў і аддзелаў, кожны з якіх вядзе свой участак работы. А чым займаецца ваш аддзел?**

— Сапраўды, Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей — разгалінаваная структура, і накірункі яго дзейнасці розныя. Супрацоўнікі займаюцца арганізацыйнай, метадычнай, даследчай і выдавецкай работай. Навучальна-метадычны аддзел працуе над стварэннем практычных дапаможнікаў, што адрасуюцца сям'і і дашкольным установам. Праўда, хутка мы выйдзем на шырэйшы абсяг. У перспектыўны план закладзена падрыхтоўка дапаможнікаў па эстэтычным выхаванні школьнікаў і навучэнцаў спецыяльных сярэдніх устаноў — прафесійных тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў.

**— Валянціна Адамаўна, давайце пафіласофствуем. Якім чынам, на вашу думку, трэба выхоўваць дзяцей, каб яны сталі гаспадарамі і патрыётамі сваёй зямлі?**

— Я ўпэўнена, што такое выхаванне павінна адбывацца на падмурку нашых святынь — праз родную мову, літаратуру, фальклор, гісторыю, традыцыйную педагогіку і народныя традыцыі, а таксама праз далучэнне дзіцяці да хрысціянскай маралі. Дарэчы, так выхоўвае дзяцей увесь свет. Так павінны рабіць і мы.

*Заканчэнне на с. 6.*

Меркаванні

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМ, ШАВІНІЗМ

утапічнай тэорыі пабудовы «светлай будучыні», камунізму.

Дарэчы, бальшавіцкая ідэалогія цалкам грунтуецца на парадоксах і законе адмаўлення адмаўлення. На словах прызнавалася права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення, а на справе рэпрэсіўна прыпыняўся працэс станаўлення незалежных дзяржаў на ўскраінах былой імперыі. Гэта яскрава відаць на прыкладах Беларусі. Пачалося з гвалтоўнага разгону Усебеларускага з'езда ў Менску ў снежні 1917 года, затым непрызнанне БНР, цкаванне тых, хто стаяў ля вытокаў гэтага сапраўды нацыянальнага інстытута беларускай дзяржаўнасці, нарэшце, шальмаванне ўсяго, што было звязана з нацыянальна-вызваленчым рухам, паклёп на нацыянальна свядомую беларускую інтэлігенцыю з навешваннем ёй ганебных бірак накшталт «нацдэм», што пазней служыла «візітнай карткай» пры «запрашэнні» ў карныя органы бальшавіцкай інквізіцыі, дзе «двойкі», «тройкі», здзекуючыся над Фемідай, тварылі беззаконне, а садысты, выхаванцы «жалезнага Фелікса», «караючым мячом рэвалюцыі» прыводзілі прысуд у выкананне. Словы «нацдэм», «нацыяналіст» становяцца страшыдлам, якім запалохвалі нават тых, хто яшчэ проста не цураўся матчынай мовы. Аднак беларускія «нацдэмы» не прапаведавалі нацыянальнай выключнасці, нацыянальнай перавагі над іншымі, не праглі айчыны другіх.

Беларускі нацыяналізм ніяк не супярэчыць інтэрнацыяналізму. Інтэрнацыяналізм з навуковага пункту гледжання інтэрпрэтуецца як прынцып салідарнасці ўсіх народаў, заснаваны на іх роўнасці і раўнапраўі, на павазе і прызнанні сацыяльна-гістарычнай і культурнай спадчыны народаў усяго свету.

Але ж для гэтага патрэбна асноўнае — існаванне нацый. Што да «пралетарскага інтэрнацыяналізму», гэта рэч іншая. Ён ніяк не стыкуецца з паняццем гуманізму, бо грунтуецца на гегеманіі пралетарыяту, а на практыцы — на дыктаце кампартыйнага чыноўніцтва, якое ўзурпіравала права распараджацца ад імя працоўных. Бальшавіцкімі ідэолагамі прыдуманы такія штучныя паняцці, як «сацыялістычны», «пралетарскі» (процівага — «буржуазны»), «савецкі» гуманізм. Але ж гуманізм можа быць толькі адзін — агульначалавечы.

Паняцце «нацыяналізм» непасрэдна звязана з паняццем «патрыятызм». Патрыятызм — гэта адданасць сваёй бацькаўшчыне, свайму народу, любоў да радзімы. Патрыёт — чалавек, адданы свайму народу, гатовы на ахвяры, здзяйсняючы подзвігі ў імя інтарэсаў свае радзімы. Быць патрыётам, значыць, быць нацыяналістам. «Пралетарскі нацыяналізм» і патрыятызм несумяшчальныя. Згодна з канцэпцыяй Маркса, у пралетарыяў няма бацькаўшчыны. То ў імя чыёй бацькаўшчыны яны будуць здзяйсняць подзвігі? Парадокс... Паняцце патрыятызму нельга разглядаць абстрактна як рэч у сабе. Яно набывае пэўны сэнс толькі ў спалучэнні з паняццямі «нацыя», «радзіма», «бацькаўшчына». Скажам шчыра, што нам сёння вельмі бракуе патрыётаў — носьбітаў нацыянальнай ідэі. Дзесяцігоддзямі бальшавіцкая ідэалогія вытраўлівала са свядомасці беларусаў нацыянальны патрыятызм і прывівала ім лжэпатрыятызм — любоў да нейкай міфічнай новай гістарычнай супольнасці — «савецкіх людзей». Сталінска-суслаўска-брэжнеўскі «інтэрнацыяналізм» быў не чым іншым, як псеўдаінтэрнацыяналізмам, з-пад прывабных шатаў якога прасвечваў мундзір французскага капрала Шавінэ і імперскага пакрою галіфэ махровых чарнасоценцаў. Міжволі ўзнікае пытанне: ці быў Сталін сапраўдным інтэрнацыяналістам? Адказ адназначны: Сталін быў вялікадзяржаўным рускім шавіністам грузінскай нацыянальнасці. Усе ягоныя практычныя дзеянні сведчаць аб гэтым. Успомнім яго прамову, прысвечаную Дню Перамогі 1945 года, дзе ёсць, між іншым, такія словы: «У першую чаргу перамог вялікі рускі народ». Атрымліваецца, што роля беларусаў, якія страцілі ў гады Другой сусветнай вайны кожнага чацвёртага жыхара, як і іншых народаў, нікчэмная. Эпігоны сталіншчыны, «выдающиеся личности», таксама не былі інтэрнацыяналістамі, таму што іх намаганні былі скіраваны на ўмацаванне «чырвонай імперыі», а паслухмяная прапагандысцкая машына старалася з усіх сіл узвышаць усё тое, што звязвалася з паняццем «рускі»: «великий русский народ», «великая русская культура», прыніжаючы іншыя нацыі і іх здабыткі, адмаўляючы ім на справе ў роўнасці і раўнапраўі, гвалтоўна знішчаючы сацыяльна-гістарычную і культурную спадчыну народаў СССР.

Разглядаючы паняцце «патрыятызм», трэба высветліць і пытанне, ці былі бальшавіцкія верхаводы КПБ і прадстаўнікі кіруючага апарата БССР сапраўднымі патрыётамі Беларусі? Тым больш гэта трэба высветліць, калі былыя бальшавіцкія артадоксы, а цяпер неабальшавікі, пры дапамозе лакейскіх паслуг некаторых псеўдаінтэлігентаў ад журналістыкі (сапраўдны інтэлігент, згодна інтэрпрэтацыі Герцэна,— крытычна думаючая асоба, а ў сахараўскім разуменні — чалавек, які не прызнае прымусу ні фізічнага, ні духоўнага) узводзяць на вяршыню славы былых кіраўнікоў рэспублікі — маўляў, яны варты таго, каб для іх збудаваць пантэон славы ў Беларусі і вечна схіляцца перад іх памяццю. На самай справе былыя ўладары БССР былі толькі служкамі-сатэлітамі крамлёўскіх бальшавіцкіх самадзержцаў і пад маскай «інтэрнацыяналістаў» дапамагалі ім ганьбіць сваю нацыю, пляміць нацыянальную культуру, знішчаць родную мову, выкарчоўваць усё датла, што напамінала аб нацыянальным менталітэце беларусаў. Шчыра кажучы, кожны з іх унёс свой уклад у справу гвалтоўнай асіміляцыі, у выніку якой беларуская нацыя апынулася на мяжы знікнення.

Што да нацыянал-шавінізму, які прыпісвалі і зараз прыпісваюць нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, змагарам за нацыянальнае Адраджэнне, то гэта не што іншае, як фантазія, прыдумка хворага ўяўлення, затуманенага ўтапічнай тэорыяй «зліцця» нацый і іх моваў, і дачынення да беларускага нацыяналізму ён не мае. Нацыя, на знявечаным целе якой застылі сляды ад «крывавых абдымкаў» шавіністаў з Захаду і Усходу, выпрацавала ў сябе трывалы імунітэт да віруса гэтай ганебнай гістарычнай праявы.

**Васіль СОКАЛ,**
**выдатнік народнай асветы.**

**Ляхавіцкі раён.**

 

# ЦІ БУДЗЕМ МЕЦЬ БЕЛАРУСКУЮ БІБЛІЮ?

**Для нашчадкаў Скарыны гэтае пытанне здавалася б рытарычным, ды ўсё ж...**

*Л. ЛІПЕНЬ*

**Прыгадаем — наша Бацькаўшчына — першая краіна сярод найбліжэйшых усходніх суседзяў пачала друкаванне кніг, і гэтым першым друкам была Біблія. У 1525 годзе выдавецкая дзейнасць доктара Скарыны не без дапамогі царкоўных цемрашалаў прыпынянецца на доўгія 37 гадоў, а сам асветнік вымушаны пакінуць няўдзячную радзіму. Новая хваля асветніцтва распачынаецца беларускім рэфармацыйным «Катэхізісам» у 1562 годзе, калі вялікі канцлер, нясвіжскі князь Мікалай Радзівіл Чорны загадвае ўчыніць друкарню ў сваім родавым месце. Праз год (1563) у Берасці «адціснуты» раскошны літургічны фаліянт так званай Радзівілаўскай Бібліі «з гэбрайскай, грэцкай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю і дакладна перакладзенай». Чаму Біблія называецца Радзівілаўскай — гэта зразумела, бо «друкавана ў Берасці Літоўскім паводле загаду і коштам Найяснейшага Князя, Найвышэйшага Маршалка і Канцлера». А вось чаму на польскай мове? На гэта пытанне даць адказ не так проста. І ўсё ж ён мусіць быць. Вялікі літоўскі канцлер і віленскі ваявода, рашучы прапіўнік дзяржаўнага саюзу з Польшай Мікалай Радзівіл Чорны, кальвініст і пратэктар Рэфармацыі ніяк не можа быць залічаны да польскіх патрыётаў. Дык што гэта за прыхільнасць без дай прычыны да польскай мовы ў князя-незалежніка, ды яшчэ з антыкаталіцкай арыентацыяй? Пашукайце адказ, ён абавязкова мусіць быць!.. Гэта важна тым больш, што і наступныя пратэстанцкія кнігадрукі Бібліі, ажыццёўленыя ўжо Сымонам Будным, выйшлі з каментарыямі таксама па-польску (1572, Узда—Заслаўе; 1574, Лоск). Яшчэ раней са сталіцы Вільні па ўсёй дзяржаве разышліся і выкарыстоўваліся ў Рэфармацыйных зборах адрынутыя праваслаўнай і каталіцкай вярхушкай беларускія біблійныя кнігі Скарыны. Пра гэта засведчыў у цюбінгенскім выданні 1559 года вядомы пратэстанцкі дзеяч італьянец П'етро Паола Вэрджэрыё (Вэргерыус) (Vergerio P. P. A gl'incuisitori che sono per L Itália. Tubingae, 1559). Тэксты Старога і Новага Запаветаў ды «Евангелле» Васіля Цяпінскага з выдатнымі прадмовамі на старабеларускай мове (рэфарматы не пакідалі намаганняў будзіць патрыятычную свядомасць народа) былі бадай што апошнімі айчыннымі выданнямі Слова Божага ў Беларусі (1580). І толькі ў 1931 годзе беларускі баптысцкі прасвітар Лукаш Дзекуць-Малей і Антон Луцкевіч сумеснай працай і рупнасцю Брытанскага біблійнага таварыства выдаюць у Гельсінгфорсе пераклад «Новага Запавету і Псальмаў».**



НА ЗДЫМКУ: рабочы момант падчас семінара: перакладчык Анатоль Клышка (Менск), доктар Дэвід Кларк (Ю-Бі-Эс), Алесь Анціпенка (Менск).

Напрыканцы трыццатых гадоў ажыццявіліся руплівыя патрыятычныя намаганні беларускага святара-каталіка Вінцэнта Гадлеўскага: у ягоным перакладзе з каментарыямі ў Вільні былі надрукаваны «Чатыры Эванэліі і Апостальскія Дзеі». У 1954—1974 гадах новазапаветныя тэксты перакладаў выдаў у Рыме беларускі ксёндз Пётра Татарынавіч. Таксама ў эміграцыі, «з мовы гэбрайскае а грэцкае на беларускую нанава перакладзеная», у 1973 годзе ў Нью-Йорку пабачыла свет «Сьвятая Бібля». Гэтае найпаўнейшае выданне біблійных тэкстаў сталася магчымым, дзякуючы шматгадовай перакладчыцкай дзейнасці навукоўца доктара Янкі Станкевіча і гэбраіста доктара М. Гітліна. У самыя апошнія гады выйшлі з друку асобныя старазапаветныя і евангельскія кнігі ў Таронта (Канада), Гэйнсвілі (ЗША), выдадзеныя праз архіепіскапа Мікалая з Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы і мэтадысцкага пастара, былога случчака Яна Пятроўскага з Беларускага харытатыўна-адукацыйнага фонда. Беларускі экзархат маскоўскай патрыярхіі ў 1991 годзе надрукаваў «Святое дабравесце паводле Матфея» (у адной кнізе з паралельнымі тэкстамі на мовах: элінскай, славянскай, расійскай і беларускай). Здаецца, гэта першае і пакуль што адзінае беларускамоўнае выданне Евангелля, ажыццёўленае праваслаўнай царквой маскоўскага патрыярхата для Беларусі.

Самым распаўсюджаным у нашым народзе на роднай мове сёння з'яўляецца чацвёртае выданне «Новага Запавету і Псальмаў» у перакладзе Л. Дзекуць-Малея, А. Луцкевіча, надрукаванае стараннем Аб'яднаных Біблійных таварыстваў у 1991 годзе. Кніга друкавалася на паліграфічных варштатах у Гамбургу. Сапраўдным падарункам для беларусаў стала адаптаваная «Дзіцячая Біблія» (1992) з малюнкамі ў перакладзе Барыслава Арановіча і Веры Мацёлмякі з расійскай мовы. Гэта цудоўнае выданне пабачыла свет з ласкі Інстытута перакладу Бібліі ў Стакгольме.

Аднак праблема адсутнасці ў беларусаў прымальнага для большасці хрысціян унармаванага тэксту Старога і Новага Запаветаў па-ранейшаму застаецца вострай. Яе актуальнасць асабліва ўзрасла апошнім часам, калі на шалі гісторыі быў пакладзены сам лёс беларускай нацыі. Не бачыць гэтага могуць толькі асепленыя фанатызмам асімілятары, якія не пазбыліся ілюзій як з расійскага, так і з польскага боку. Зыходзячы з некаторых іхніх выказванняў, а таксама з аналізу іх царкоўнай і касцельнай практыкі, вынікае, што гэтых грамадзян цалкам задавальняе тое, што сёння ёсць: у праваслаўных, баптысцкіх, пяцідзесятніцкіх абшчынах амаль абсалютна пануе расійская мова, у большасці каталіцкіх касцёлаў — польская.

Біблійнае таварыства Рэспублікі Беларусь узначальвае прадстаўнік Царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў, які не валодае беларускай мовай і аднойчы заявіў падчас журналісцкай гутаркі са мной: «Я говорю на русском языке и не считаю это преступлением». Не бачыць граху ў адмаўленні духоўнай каштоўнасці роднай для беларусаў мовы — стала, на жаль, палітычнай лініяй у дзейнасці большасці кіраўнікоў баптысцкіх цэркваў і Біблійнага таварыства, якое знаходзіцца пад іх вызначальным уплывам. Пра гэта ж неаднаразова мне апавядалі беларускія святары Эрнэст Сабіла і Ян Матусевіч. З вялікай скрухай намі ўспрымаюцца звесткі, што на Берасцейшчыне — бацькаўшчыне слаўнага пастара Дзекуць-Малея, затаптаны ягоныя патрыятычныя і глыбока хрысціянскія пачынанні — новыя баптысцкія лідэры, што атрымалі сваю навуку праз Маскву, вядуць пропаведзі па радыё на расійскай і ўкраінскай мовах. Упартае ігнараванне з боку людзей, што выступаюць перад простым людам ад імя Хрыста, Богам дадзенай нашаму народу мовы прыкра, але непазбежна прыводзіць да думкі пра непаўнату і духоўную недасканаласць іхняга разумення хрысціянства. На жаль, і падчас Міжнароднага семінара «Лекцыянарыі і Біблійны пераклад» у Менску давялося сутыкнуцца з пазіцыяй неглыбокіх поглядаў на месца і значэнне беларускай мовы ў хрысціянскім жыцці, выказанай прадстаўніком праваслаўнай канфесіі выкладчыкам жыровіцкай семінарыі айцом Сяргеем Гардуном. Няёмкасць сітуацыі абвастрыла і тое, што нас ударылі па хворым месцы ў прысутнасці шаноўных міжнародных прадстаўнікоў з Лондана, Стакгольма, Цюрыха, а таксама перакладчыкаў з Расіі, Чувашыі і іншых краін. Выступленне святара Гардуна выклікала натуральны, дастаткова ветлівы, але рашучы адпор з боку прысутных на семінары беларускіх патрыётаў як перакладчыкаў, так і прадстаўнікоў цэркваў, а таксама Таварыства беларускай мовы імя Скарыны. Як мне падалося, нашы адукаваныя і далікатныя госці з Еўропы з поўным разуменнем і спачуваннем паставіліся да беларускіх праблем. Адзначу яшчэ адзін штрых: на Міжнародным біблійным семінары ў якасці рабочых выкарыстоўваліся толькі дзве мовы — англійская і расійская. Наша родная і дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь апынулася за бортам. Што за прычына? Думаю, што самая галоўная і сур'ёзная прычына вам зразумелая — яна карэніцца ў пазіцыях, якія, на жаль, займаюць арганізатары семінара з беларускага боку. Упэўнены, што калі б Біблійнае таварыства Беларусі, праваслаўны экзархат моцна захацелі забяспечыць работу семінара двума-трыма перакладчыкамі-сінхраністамі для прамога і адваротнага перакладу з беларускай (мовы беларускай дзяржавы, краіны знаходжання семінара, суверэннага члена ААН), англійскай (мовы міжнародных зносін), расійскай (мовы расійскай дзяржавы і яе прадстаўнікоў на семінары) і своечасова пра гэта парупіліся, то ўсе тэхнічныя цяжкасці былі б пераадолены, а павага да Беларусі і яе прэстыж як суверэннай дзяржавы атрымалі б належны дыпламатычны ўзровень. Сумна, але такога не адбылося. Удзельнікаў семінара абслугоўвалі два высакакваліфікаваныя сінхронныя перакладчыкі з маскоўскай патрыярхіі.

Грунтоўную лекцыю, прысвечаную перакладу Новага Запавету на сучасную грэцкую мову, прачытаў прафесар Джон Каравідупулас (Грэцыя). Ён жа азнаёміў слухачоў з гісторыяй і асаблівасцямі літургічных тэкстаў Святога Пісьма ў раннехрысціянскіх царкоўных абшчынах. А. Пянткоўскі (Масква) таксама падрабязна распавядаў пра лекцыянарыі ў візантыйскай традыцыі. Маскоўскі даследчык і знаўца старагэбрайскай мовы Міхаіл Селязнёў засяродзіў увагу на гэбрайскіх біблійных тэкстах і прапанаваў сваю тыпалогію розначытанняў. Надзвычайную цікавасць прыцягнулі да сябе лекцыі шатландца доктара Поля Элінгворта, кансультанта па перакладу Аб'яднаных Біблійных таварыстваў: «Сэнсавы пераклад. 1. Граматычны аналіз. 2. Семантычныя кампаненты», а таксама «Арганізацыя перакладчыцкага працэсу». Доктар Сайман Крысп, які валодае і карыстаецца расійскай мовай, прачытаў на ёй свае лекцыі, прысвечаныя праблемам моўных варыяцый і рытарычным пытанням у біблійных тэкстах. Слухачоў зацікавілі «Фігуры мовы» і «Імпліцытная інфармацыя» — змест дакладаў выдатнейшага знаўца Бібліі супрацоўніка Ю-Бі-Эс доктара Дэвіда Кларка.

Чынны кансультант і ўдзельнік біблійных семінараў настаяцель праваслаўнага прыхода ў Амстэрдаме, кансультант айцец Сяргей Аўсяннікаў прачытаў змястоўную лекцыю «Тыпы перакладаў». Яна вызначалася рэалістычна ўзважаным, сучасным падыходам да найбольш актуальных і спрэчных пытанняў тэорыі і практыкі перакладу Бібліі.

Швейцарская даследчыца і кансультант Ю-Бі-Эс з Цюрыха Мар'яна Беерлі-Моар працуе ў галіне перакладу Бібліі на мовы каўказскіх народаў, а таксама мовы угра-фінскай і цюркскай групы. Спадарыня Беерлі-Моар прапанавала ўдзельнікам семінара ў сваёй лекцыі вельмі высокі навуковы ўзровень разумення праблем захавання дакладнасці і яснасці ў перакладах.



НА ЗДЫМКУ (справа): кансультант па перакладу з Інстытута перакладу Бібліі ў Стакгольме сп. Мар'яна Беерлі-Моар (Швейцарыя) падчас супольнай працы з удзельнікамі семінара з Чувашыі і Украіны.

Каардынатар Аб'яднаных Біблійных таварыстваў у Лондане доктар М. Джынбачан не толькі выступіў з найцікавейшай уводнай лекцыяй, але бліскуча выступаў з заўвагамі ў дыскусіях, пацвердзіўшы свой унікальны аўтарытэт кампетэнтнага навукоўца-бібліста, знаўца некалькіх старажытных і сучасных моў.

Ад Беларусі на семінары выступілі айцец Сяргей Гардун і філолаг Аляксей Мельнікаў.

*Заканчэнне на с. 7.*

# Вучымся!

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скарагаворку, запомніце. Прагаварыце хутка тры разы.

Рак-гарэза з рыбай разам
З рэчкі рыбака дражніў,
А рыбак у рэчцы ракаў
Разам з рыбаю дражніў.

**А. ЗЭКАЎ.**

2. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на выдзеленыя літары.

| | |
|---|---|
| **св**етлы | пу**шч**а |
| **св**ежы | пла**шч** |
| **св**інцовы | **шч**упак |
| **св**італьны | блі**шч**аць |
| **зн**іклы | лу**шч**ыць |
| **цв**ёрды | я**шч**э |
| **св**ядомы | ле**шч** |

3. Прачытайце выразна вершы П. Броўкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

### Урок дваццаты

## Беларусь

Зямля Беларусі! Бары і дубровы,
Жытнёвае поле, шаўковы мурог,
У промнях рабіны заход вечаровы,
Што клёкат буслоў, ручаёў перамовы
І ў шумных прысадах істужкі дарог.

Зямля Беларусі! Вачамі азёраў
Глядзіш ты ў празрыстыя высі нябёс,
Начамі, што яблыкі, падаюць зоры,
Знікаюць па водах, па чорных разорах,
Па травах, абсыпаных кроплямі рос.

Былога быліны, старога паданні
Плывуць, як аблітыя сонцам чаўны,
Па краю зялёным, прасторах бяскрайніх
Ад Нёмна да Сожа, ад Буга да Гайны,
Па хвалях Дняпра і шырокай Дзвіны.

Бацькоў нашых слава на іх узбярэжжах,
Гамоняць пра гэта бары-байкары,
Гамоняць пра гэта і Полацка вежы,
І Турава сцены, і шум Белавежы,
І роднага Мінска сівыя муры.

## Родныя словы

Яны даспадобы мне, хоць і старыя,
Не толькі ў гучанні хвалюючы змест,
Як многа гавораць мне назвы такія —
 Мінск, Пінск, Брэст.

Калі паразважыць, няцяжка дазнацца,
Бо сведчаць на ўсю неабсяжную шыр,
Што продкі любілі спакойную працу —
 Шклоў, Клецк, Мір.

А вораг находзіў — бязлітасна білі,
Трываць не хацелі абразы і слёз,
І разам з Бярозаю катаў тапілі —
 Пціч, Друць, Сож.

Дзяды і бацькі нашу мову стварылі,
Каб звонка звінела, была як агонь.
І сёлаў імёны, як гукі цымбалаў,—
 Блонь, Струнь, Звонь!

## Тэма: Паўтарэнне правапісу галосных і зычных

1. Прачытайце прыказкі і прымаўкі і скажыце, як Вы разумееце іх сэнс. Растлумачце асаблівасці вымаўлення выдзеленых слоў.

*Крычыць*, аж у *Крычаве чуваць*. Не *адзін Гаўрыла* ў Полацку. Мсціслаўцы *не ўміраюць* на сваёй *лаўцы*. Мсціслаўцы — *недасекі*. Баброўня нікому *не роўня*. Слуцакі — мацакі, аднак і *нясвіжцы не палахліўцы*. Ушацкія *ўсе людзі* хвацкія. Як у Слуцку: усё *па-людску*. Да *Пагоста дарога не проста*. *Яшчэ* сёння ў Пінску *не быў*. Расна пірагамі красна. *Ліцвін* як *ліцвін*. Палешуку серп *не дзіва*.

2. Прачытайце тэкст паводле кнігі Г. Штыхава «Старажытны Полацк» і складзіце пытанні да яго так, каб пры адказе на іх атрымаўся пераказ.

### ПОЛАЦКІЯ ПЯЧАТКІ

Цудоўныя помнікі нашай даўніны — віслыя пячаткі-булы, якімі пацвярджаліся граматы. Дакумент з булай меў юрыдычную сілу. Віслыя пячаткі звычайна адціскаліся на алавяных кружках, якія мацаваліся да дакумента шнуркамі. Першая вядомая пячатка — полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча, якая датуецца апошняй чвэрцю Х стагоддзя.

Асабліва цікавыя полацкія булы, якія адбіты з пячатак, што належалі жанчынам з княжацкіх полацкіх радоў. Навукоўцам вядомы два экземпляры булы княгіні Сафіі, маці Ефрасінні Полацкай. На пячатцы — выявы святых і надпіс: «Агія София», «Агіос Георгіос». У Ефрасінні Полацкай таксама была пячатка. Була з яе адбіткам знойдзена ў Ноўгарадзе. Гэта невялікі алавяны кружок, на адным баку якога — шматфігурная кампазіцыя, а на другім — выява святой з надпісам «Иефросіня».

3. Прачытайце тэкст паводле У. Караткевіча, спішыце. У выдзеленых словах растлумачце правапіс **е, ё —я.**

Азёры — вочы **зямлі.** Воблік **Беларусі** нельга ўявіць без азёр. Іх у нас каля адзінаццаці **тысяч. Вялікія** і малыя, **цёмныя,** балотныя і **светлыя,** як само **святло. Лясныя,** як Кромань або Свіцязь, і **бязлесныя.**

**Азёры** прыносяць не толькі матэрыяльную, але і духоўную карысць. Свіцязь натхняла Адама Міцкевіча, возера Нешчарда — Яна Баршчэўскага.

Або Князь-возера, якое **цяпер,** невядома чаму, называюць Чырвоным. Гэта на Палессі. **Легенда, звязаная** з гэтым **месцам,** натхніла кампазітара Залатарова на стварэнне цудоўнага **балета** «Князь-возера».

4. Прачытайце тэкст паводле Т. Хадкевіча, спішыце. Да выдзеленых слоў падбярыце такія адпаведнікі, каб замест **о** пісалася **а.**

Нарач у нас называюць беларускім **морам.** Знаходзіцца **возера** на паўночным захадзе Менскай вобласці.

Калі пад'язджаеш да Нарачы, перад вачыма рассцілаецца такі **водны** прастор, нібы гэта сапраўднае мора. Нават у ясны ціхі дзень абрысы супрацьлеглага берага зацягваюцца сіняватым дымком, а рыбацкія чаўны і катэры ў аддаленні здаюцца маленькімі **кропкамі** на блакітным фоне. А калі ў непагадзь разгуляецца шторм, возера ўздыбліваецца **высокімі** хвалямі. Яны набягаюць, абрушваюцца на бераг, і ў шуме **тонуць** трывожныя крыкі белагрудых чаек.

5. Спішыце і ўстаўце ў словы патрэбныя літары:

а) **т** або **ц**: у газе.е, .элы, на плі.е, у све.е, .элевізар, .ёплы, на ро.е, .ішыня, у .эатры, па .элефоне.

б) **д** або **дз**: на скла.е, .ень, .ыспут, .евяць, ва ўзво.е, .ырэктар, у гора.е, гар.эроб, ме.ыцына, у брыга.е, у поез.е, каман.іроўка.

6. Пастаўце назоўнікі ў творным склоне і запішыце. Растлумачце, чаму ў адных выпадках зычныя падаўжаюцца, а ў другіх не.

Узор: печ — пе**чч**у, цяжкасць — цяжкас**цю**.

Радасць, ноч, злосць, памяць, мужнасць, вільгаць, моладзь, сувязь, дзейнасць, завязь.

7. Спішыце словы і ўстаўце, дзе трэба, апостраф.

Пад.ём, раз.езд, сур.ёзны, здароў.е, вераб.і, сям.я, б.юць, аб.ём.

8. Прачытайце тэкст і напішыце яго пераказ.

### ПОЛАЦКАЕ ВЕЧА

Полацк — адзін з самых старых гарадоў усходніх славян. Упершыню ён згадваецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 862 годам. Полацк быў сталіцай вялікага княства, якое займала абшары паўночнай і цэнтральнай часткі Беларусі, а таксама землі ў латгальскім Падзвінні.

У Полацку, галоўным паселішчы полацкіх крывічоў, здаўна збіраліся племянныя сходы, якія называліся «веча». Летапісы сведчаць, што ў XII стагоддзі веча пачынае выконваць у дзяржаўным жыцці галоўную ролю. Яно магло прагнаць князя, запрасіць новага, які мусіў прыняць умовы «рада» (дамовы), ды кантралявала яго дзейнасць. Яно ж вырашала пытанні вайны і міру. Веча абмяжоўвала княжацкую ўладу, але і падтрымоўвала яе, аберагала сваю полацкую княжацкую дынастыю. Але граматы ў іншыя гарады складалі менавіта князі. Прыкладам, Уладзімір вёў перамовы з нямецкімі пасламі пра вайсковыя і гандлёвыя справы.

Пэўны час у XII стагоддзі ў Полацку была вечавая рэспубліка, улада тады належала трыццаці «старцам», якія вырашалі ўсе гарадскія справы.

**Паводле Г. ШТЫХАВА.**

### ЗАМАЦАВАННЕ

1. Прачытайце артыкул А. Клышкі і запомніце ўжыванне выдзеленых слоў.

У нас і ў рускіх *вуліца і улица,* як вядома, агульная. Аднак не ўсе значэнні гэтых слоў супадаюць. І рускі сказ «Бери мяч и поиграй на *улице*» не перакладзеш «Бяры мяч і пагуляй на вуліцы», бо па-беларуску *вуліца* там, дзе імчаць машыны, і на вуліцы было б гуляць небяспечна.

У нас гуляюць *на дворы,* гэта значыць, на ўчастку, пляцоўцы пры доме (хаце), будынку. Дарэчы, запомнім і будзем адрозніваць гэтае словазлучэнне *на дворы* ад другога, блізкага — *на дварэ,* што абазначае ўвогуле на адкрытым паветры, не ў хаце: *На дварэ сцюжа, холад.*

2. Прачытайце мініяцюру Янкі Брыля і перакажыце.

Спыніўся вулічны рух, і старшыня міліцыі, які спыняў яго,— малады, румяны, спраўны хлапчына,— «пад ручку» павёў цераз вуліцу старэнькую бабку з кіёчкам.

Трохі няёмка яму, і хораша, і ўрачыста. Не ён яе пад руку ўзяў, а яна яго.

Старшынова рука, сагнутая ў локці, прыціснутая далонню да жывата, напомніла мне штосьці бальнае, генеральскае.

Звычайна гэта? Нават вельмі. А прыгожа.

3. Запомніце, як лепш перадаць характар кожнай хады:

Пайшоў нацянькі — *папраставаў*
пайшоў напорыста, заўзята — *пашыбаваў, пасігаў*
пайшоў невядома куды — *падаўся*
пайшоў, ведаючы і кірунак і адлегласць — *накіраваўся.*

4. Спішыце сказ з апавядання Якуба Коласа «Недаступны» і растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

Прабегшы некалькі хат, Арцём *звярнуў* на агароды, *шуснуў* у каноплі, адтуль разораю між капусты *забег* у надворак Юркі Труса, з надворка *заламаў* у вулачку і *пасучыў* проста да калодзежа.

5. Прачытайце і запомніце загадкі, загадайце іх сваім дзецям.

Ляжыць лася, расцяглася, а як устане, то і да неба дастане. (Дарога.)

З месца не зрушыцца, а на сабе многа чаго носіць. (Мост.)

За лесам лясанскім, за полем палянскім, там гукала Кацярына голасам шатанскім. (Цягнік.)

Двое вачэй наперадзе, імчыць па вёсцы і горадзе. А як не наесца — не рушым ні з месца. (Аўтамабіль.)

Прыйшоў хтось, узяў штось, пайшоў бы шукаць, ды следу не знаць. (Чалавек і лодка.)

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

### Гандаль

Быть правым — мець рацыю
ты прав — ты маеш рацыю
дать сдачи — даць рэшты
имеются в продаже — ёсць у продажы
кассир — касір, касірка
книжный магазин — кнігарня
магазин — крама
наличные деньги — наяўныя ґрошы
оплата — плата
оплатить — заплаціць
ошибиться — памыліцца
ошибочно — памылкова
покупатель — пакупнік
пересчитать деньги — пералічыць грошы
поступили в продажу — прадаюцца
проданный — прададзены
продажа — продаж
рубль — рубель
торговля — гандаль

## ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

### Берасце

Паводле апісання 1566 года ў горадзе Берасці быў замак і «места ў паркане». Гэта значыць, што Берасце было акружана абарончымі збудаваннямі, якія складаліся з драўляных слупоў, землянога вала і глыбокага рову. Але і за гэтымі ўмацаваннямі сяліліся людзі — тую частку Берасця называлі «места за парканам».

Над замкам узвышаўся так званы «стоўб» — вежа XIII стагоддзя, якая была разабрана ў 1831 годзе пры пабудове фартоў новай крэпасці. У апісанні згадваецца адна — Віленская — брама, але ў замку іх было, безумоўна, больш. Праз адну з іх выходзілі на гарадскі рынак, праз другую — да стайняў. Існавала яшчэ і старая брама, якая выводзіла на Замухавечча. У гэтай браме знаходзіўся «звон вялікі», а пад ёю — «2 тарасы для сажанья вязнев». Мелася ў замку і гадзіннікавая вежа, на якой «...зекгар (гадзіннік.— Рэд.) ад места... завжды бьёт». Сцены замка былі зроблены з традыцыйных горадняў — зрубаў. У некаторых з іх былі каморы». У замку меўся спецыяльны «рурмус, або млын, з каторага вада рурамі (трубамі.— Рэд.) до замку ідзе, аб адным коле... в котором суть помпы медяные або спіжныя (бронзавыя.— Рэд.) за штемпелямі железнымі...» Тут жа знаходзіўся «фалюш або ступа на толченіе пораху».

Падчас нападу Швецыі на Рэч Паспалітую ў сярэдзіне XVII стагоддзя Берасце ўжо мела бастыённую сістэму ўмацаванняў вакол замка і горада. У 1657 годзе ўмацаванні горада не вытрымалі асады войск шведскага караля Густава і сяміградскага князя Ракашы. Аднак абарона была настолькі актыўнай і значнай, а ўмацаванні такімі дасканалымі, што загадам караля Густава быў зняты іх спецыяльны план і намалявана гравюра.

Рэшткі земляных бастыёнаў Берасцейскага замка існавалі яшчэ на пачатку XIX стагоддзя, пакуль на іх месцы не былі збудаваны ўмацаванні Брэсцкай крэпасці.

**Паводле Міхася ТКАЧОВА.**

# Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах

*Шаноўная рэдакцыя, друкуйце яшчэ больш матэрыялаў аб гісторыі Беларусі.*

*М. ЛЕБЕДЗЬ.*

в. Стахавічы Пінскага раёна.

Гэта раздзелы з будучай кнігі, укладальнікамі і аўтарамі якой з'яўляюцца рупліўцы беларускага Адраджэння — сябра рэдкалегіі нашай газеты Зміцер Санько і вучоны-гісторык Іван Саверчанка. Па просьбах нашых чытачоў і па дамоўленасці са стваральнікамі кнігі рэдакцыя вырашыла надрукаваць асобныя раздзелы. А напачатку пералік пытанняў, на якія кніга дае адказы. Чакаем парад чытачоў, якія з адказаў варта апублікаваць.

1. Якія старажытныя плямёны былі нашымі продкамі?
2. Калі з'явіліся на беларускай зямлі курганы?
3. Якіх багоў шанавалі нашыя продкі ў дахрысціянскія часы?
4. Якія беларускія дзяржавы былі ў старажытнасці?
5. Хто такія Рагвалод і Рагнеда?
6. Калі прыйшло на Беларусь хрысціянства?
7. Ці быў адзіны старажытнарускі народ?
8. У якім часе Полацкае княства дасягнула найбольшае велічы?
9. Хто такая Ефрасіння Полацкая?
10. Хто такі Кірыла Тураўскі?
11. Хто такі Клім Смаляціч?
12. Ці была на Беларусі татара-мангольская няволя?
13. Як адбіваліся нашыя продкі ад крыжацкае навалы?
14. Ці праўда, што літоўцы заваёўвалі Беларусь?
15. Хто такі Гедымін?
16. Калі распачалося саперніцтва паміж Вільняй і Масквою?
17. Якая мова была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім?
18. Хто такі Альгерд?
19. Хто такія тры віленскія пакутнікі?
20. Што такое Крэўская унія?
21. Дзе падзелася каралеўская карона Вітаўта Вялікага?
22. Адкуль з'явіліся ў нас татары?
23. Чым вызначыліся беларусы ў бітве пад Дуброўнай?
24. Калі пасяліліся на Беларусі габраі?
25. Хто такі Казімір Ягайлавіч?
26. Што такое магдэбургскае права?
27. Чым адметнае княжанне Аляксандра?
28. Хто такі Кастусь Астрожскі?
29. Хто такі Жыгімонт Стары?
30. У якіх бітвах беларусы перамагалі крымскіх татараў?
31. Хто заснаваў беларускае кнігадрукаванне?
32. Хто такі Мікола Гусоўскі?
33. Калі была створана першая беларуская канстытуцыя?
34. Што такое паны-рада?
35. Што такое Вялікае княства Літоўскае?
36. Чаму на Беларусі маскоўскага цара Івана IV называюць Жахлівым?
37. Што такое Люблінская унія?
38. Што такое Рэч Паспалітая?
39. Якое месца ў нашай гісторыі займае Сцяпан Батура?
40. За што шануюць Сымона Буднага ў свеце?
41. Хто такі Васіль Цяпінскі?
42. Адкуль і калі прыйшла каталіцкая вера на Беларусь?
43. Хто такі Астафей Валовіч?
44. Хто такі Леў Сапега?
45. Хто заснаваў кнігадрукаванне ў Маскве?
46. Што такое Берасцейская унія?
47. Што такое уніяцтва?
48. Чаму нашы магнаты пакідалі праваслаўе і пераходзілі ў каталіцтва?
49. Што такое Літоўская метрыка?
50. Калі быў заснаваны першы універсітэт на Беларусі?
51. Ці быў «залаты век» у гісторыі Беларускай дзяржавы?
52. Чым славуты Ян Кароль Хадкевіч?
53. Чым вызначыўся Януш Радзівіл?
54. Якая мова была сродкам дыпламатычных дачыненняў ва Усходняй Еўропе даўней?
55. Хто вынайшаў шматступенную ракету?
56. Што рабілі беларусы ў Маскве ў XVII стагоддзі?
57. Хто стварыў літары, якімі мы сёння карыстаемся?
58. Што такое лібэрум вета?
59. Якія былі прычыны заняпаду Вялікага княства Літоўскага?
60. Якая роля ў нашай гісторыі належыць Пятру I?
61. Як беларусы страцілі сваю дзяржаўнасць?
62. Калі пасяліліся на Беларусі расійцы?
63. Хто такі Тадэвуш Касцюшка?
64. Які след у гісторыі Беларусі пакінуў А. Суվораў?
65. На чым баку былі беларусы ў вайне 1812 года?
66. Як беларусы змагаліся супраць расійскага панавання?
67. Хто такі Кастусь Каліноўскі?
68. Як здарылася, што Жамойць пачала называцца Літвою?
69. Адкуль узяліся на Беларусі палякі?
70. Хто такі Браніслаў Эпімах-Шыпіла?
71. Калі паўстала першая беларуская палітычная партыя?
72. Хто такія Іван і Антон Луцкевічы?
73. Хто такі Вацлаў Іваноўскі?
74. Хто такі Вацлаў Ластоўскі?
75. Чаму час нашага Адраджэння пачатку XX стагоддзя называецца «нашаніўскім кругабегам»?
76. Чаму бальшавікі разагналі Першы Усебеларускі кангрэс?
77. Ці была БНР марыянеткавай дзяржавай?
78. У якіх межах былі абвешчаныя Беларуская Народная Рэспубліка і БССР?
79. Як дзялілі Беларусь у Берасці, Маскве ды Рызе?
80. Чаму бальшавікі пайшлі на стварэнне БССР?
81. Якія землі былі адабраны ад БССР Масквой у 1919 годзе і не вернуты дагэтуль?
82. Дзе ў Беларусі былі арганізаваны паўстанні супраць бальшавікоў?
83. Што такое Слуцкі збройны чын?
84. Якія пласты беларускага народа найболей пацярпелі ад бальшавіцкага тэрору?
85. Як бальшавікі рэфармавалі беларускую мову?
86. Якія былі мэты польскага змагання з беларускім нацыянальным рухам у Заходняй Беларусі?
87. Як Вільня сталася жамойцкім горадам?
88. Што такое СБП?
89. Дзе ў свеце жывуць беларусы?
90. Якіх славутых людзей дала свету Беларусь?
91. Якія войны прынеслі найбольшыя страты народу Беларусі?
92. Які лёс стамадаўніх музейных і бібліятэчных збораў на Беларусі?
93. Як чужынцы скарыстоўвалі існаванне на Беларусі розных рэлігій?
94. Якія выдатныя польскія дзеячы з паходжання беларусы?
95. Якія дзеячы расійскае навукі і культуры з паходжання беларусы?
96. Як беларусы называлі сябе і сваю мову ў розныя часы?
97. Як узніклі нашы дзяржаўныя сімвалы?
98. Якія гарады былі сталіцамі Беларусі?
99. Якая нацыянальная рэліквія найкаштоўнейшая для беларусаў?
100. Якія гістарычныя даты павінны памятаць і шанаваць беларусы?

# СВЯТА РОДНАЙ МОВЫ

***У Чавускай гарадской СШ № 2 Магілёўскай вобласці з 3 па 8 мая праходзіў Тыдзень беларускай мовы. У гэтым мерапрыемстве прынялі ўдзел усе вучні школы. Праведзены конкурс лінгвістычных беларускамоўных насценных газет па класах. Выяўлены пераможцы: насценная газета «Крынічка», якую выпускаюць вучні 7-х класаў (рэдактар настаўніца Ала Анатольеўна Ісаенка), газета «Спадчына» вучняў 5-х класаў (рэдактар настаўніца Людміла Уладзіміраўна Хар'янава) і газета «Родная мова» вучняў 11-га класа (рэдактар настаўніца Ніна Яўгенаўна Волкава). Прайшлі конкурсы малюнкаў на тэму «Краявіды Беларусі», выстава дзіцячых вырабаў з беларускім каларытам, конкурсы загадак, прымавак, прыказак, а па класах — конкурсы чытальнікаў твораў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, віктарыны і конкурсы на тэму: «Як я ведаю родную Беларусь», развучваліся беларускія песні, танцы, гульні.***

***Вучні школы сустрэліся таксама з пісьменнікамі — земляком з вёскі Антонаўка, адказным сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іванам Аношкіным, членамі раённага літаб'яднання галоўным рэдактарам раённай газеты «Іскра» Валянцінам Крыжэвічам, аўтарам фантастычнай аповесці «Востраў на дне акіяна» Міколам Салаўцовым, загадчыкам аддзела радыёінфармацыі раённай газеты, старшынёй літаб'яднання, аўтарам 2 зборнікаў вершаў для дзяцей «Вавёрчын веласіпед» і «Чаму плуг не ржавее». Адбылося сапраўднае свята роднай мовы.***

С. МІКАЛАЕЎ.

# Ці будзем мець беларускую Біблію

*Заканчэнне. Пачатак на с. 4.*

Перакладчыкі і навукоўцы наведалі старажытны палескі Тураў, дзе прысутнічалі на ўрачыстасці адкрыцця помніка беларускаму раннехрысціянскаму дзеячу Кірылу Тураўскаму. Форум перакладчыкаў Бібліі завяршыўся прыняццем выніковых дакументаў (адзін з іх друкуем ніжэй).

ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЙНАЙ КАМІСІЯЙ, БІБЛІЙНЫМ ТАВАРЫСТВАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І АБ'ЯДНАНЫМІ БІБЛІЙНЫМІ ТАВАРЫСТВАМІ

1. Беларуская Біблійная камісія, Біблійнае таварыства Рэспублікі Беларусь і Аб'яднаныя Біблійныя таварыствы прызналі неабходным і надалей развіваць міжканфесійнае супрацоўніцтва, якое паклікана садзейнічаць распаўсюджванню Слова Божага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

2. Для найбольш эфектыўнага дасягнення гэтай мэты ББК, БАБК і АБТ маюць намер пастаянна кансультавацца адзін з адным і супрацоўнічаць у наступных сферах біблійнай працы.

2.1. Тэксталагічныя даследаванні славянскай, грэцкай і лацінскай традыцый Бібліі, якія мусяць забяспечыць тэксталагічны грунт для перакладу Святога Пісьма на беларускую мову.

2.2. Праца над перакладам Новага Запавету (у наступным і ўсёй Бібліі) на беларускую мову. Пераклад павінен адпавядаць арыгіналу і дакладна перадаваць сэнс Святога Пісьма. Кантроль над працэсам перакладу мае быць ускладзены на міжканфесійную камісію, якая складаецца з сяброў ББК, БАБК і АБТ.

2.3. Публікацыя беларускага перакладу Новага Запавету будзе ажыццёўлена пасля адпаведнай ухвалы міжканфесійнай камісіі.

2.3.1. Гэтая камісія сустракаецца рэгулярна і выпрацоўвае рэгламент сустрэч і прынцыпы перакладу на сваім першым пасяджэнні.

2.4. Распрацоўка матэрыялаў і даведачных дапаможнікаў для тых, хто чытае Біблію.

2.5. Падрыхтоўка адмысловых ілюстраваных выданняў Святога Пісьма для дзяцей.

2.6. Падрыхтоўка спецыялістаў па бібліістыцы і перакладчыкаў біблійных тэкстаў (паводле рэкамендацыі ББК і БАБК).

Менск, 14 траўня 1993 г.
За Беларускую Біблійную камісію Мітрапаліт Менскі і Слуцкі ФІЛАРЭТ.
За Біблійнае таварыства Рэспублікі Беларусь дырэктар ПАТУПЧЫК Я. П.
За Аб'яднаныя Біблійныя таварыствы Сяргей АЎСЯННІКАЎ.



НА ЗДЫМКУ: перакладчыкі Чувашскай Біблійнай камісіі: Лісіна Ева (Масква), Грыгор'еў-Енеш Віталій (Чэбаксары).

## Запрашае «Церамок»



Юныя жыхары Добруша паспелі палюбіць спектаклі дзіцячага лялечнага тэатра «Церамок» «Тры парсючкі», «Сонейка, свяці!» і інш.

Узначаліла калектыў настаўніца Надзея Кажанава. Разам з акцёрамі — старшакласнікамі добрушскіх школ — яна прыдумвала і рабіла лялькі, стварала касцюмы і дэкарацыі да будучых пастановак.

НА ЗДЫМКУ: кіраўнік лялечнага тэатра «Церамок» Надзея Кажанава з акцёрамі Алінай Кічэнкавай, Вольгай Машуковай, Вольгай Матуз і Таццянай Чуракавай.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА. БЕЛІНФАРМ.**

*Гісторыя ў анекдотах* *Л. Р. КАЗЛОЎ.*

## «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

*Працяг. Пачатак у №№ 1, 2, 4—6, 21, 22.*

Цяжка сказаць, чым бы займаўся Жыгімонт II Аўгуст далей, каб не вялікія дзяржаўныя клопаты. Ды і сусед, цар Іван IV Жахлівы, па ўсім відаць, вырашыў адцягнуць яго ад невясёлых думак, распачаўшы Лівонскую вайну. Трэба заўважыць, што многа чаго яшчэ паспеў зрабіць для гісторыі Жыгімонт II, нават стварыў новую дзяржаву — Рэч Паспалітую з Кароны і Вялікага княства. «Кароль лепш адчувае сябе ў дзяржаве, а не ў сям'і»,— казаў пра яго Станчык. Усё гэта так, але бяда ў тым, што ў радаслоўнай Ягайлавічаў-мужчын Жыгімонт II аказаўся апошнім.

Нейкім цудам год трымалася Рэч Паспалітая без караля. Нарэшце, з'ехаліся на вольным полі, якое ад таго так і звалася «Воля», пад малазначнай яшчэ Варшавай паны і рыцарства, каб выбраць каго-небудзь на трон. Паколькі, як вядома, «няма прарока ў сваёй Айчыне», дык, кіруючыся падобным пастулатам, абралі замежнага прадстаўніка. Цікава, што заяву на конкурс падаваў нават сам расейскі цар Іван IV, але, відаць, у Маскве яшчэ не навучыліся як след складаць характарыстыкі, таму ён не прайшоў. А каралём стаў француз Генрых Валуа, які праз няпоўных дванаццаць тыдняў «з вялікім коштам» збег, бо адкрылася вакансія на трон у Францыі. Тады зноў паз'язджаліся дэпутаты-выбаршчыкі да Волі і выгукнулі новага караля. Такі метад называўся элекцыяй, а абраны кароль — электарам. Ім аказаўся трансільванскі князь венгерскага паходжання Стэфан Баторы, ці, як яго звалі на Беларусі,— Сцяпан Батура. Для большай пэўнасці электара ажанілі з Ганнай з Ягайлавічаў, адной з дачок Жыгімонта Старога і Боны. Такім чынам, Рэч Паспалітая атрымала караля і каралеву.

*Стэфан Баторы, апрача роднай венгерскай мовы, дасканала валодаў лацінскай, але ніводнай з моў сваёй новай дзяржавы так і не засвоіў. Аднойчы, размаўляючы з архібіскупам львоўскім, ён насмешліва заўважыў:*

*— Цікава, як гэта, не ведаючы дастаткова лаціны, можна стаць каталіцкім архібіскупам?*

*— Таксама, як, не ведаючы польскай мовы, можна стаць каралём Рэчы Паспалітай,— адпарыраваў клірык.*

Баторы даказаў усё ж, што і адной лацінскай мовы дастаткова для кіравання, прычым даволі спраўнага. Нездарма пра яго склалі прымаўку: «За караля Сцяпана страх быў і на пана». Наогул з мовамі бліжэйшых і далёкіх суседзяў у падданых манарха Рэчы Паспалітай звязваліся нават класічныя падзеі з Бібліі: «Д'ябал Еву звадзіў па-італьянску, Ева Адама — па-чэшску, Бог іх па-нямецку караў, анёл па-венгерску вытурыў з раю». Гэтае апошняе можна аднесці і да вынікаў Лівонскай вайны, што для маскоўскага цара сталі змрочнай рэальнасцю.

*Кажуць, калі Стэфан Баторы дазнаўся пра вялікія ахвяры з абодвух бакоў падчас доўгай вайны з Масковіяй, то паслаў Івану Жахліваму ліст з прапановай сустрэцца ў чыстым полі і самнасам вырашыць «лівонскую спрэчку». Цар не надта верыў у свае фехтавальныя здольнасці, таму выклік адхіліў, матывуючы тым, што кароль, якога абралі, яму, гаспадару ўсея Русі, дзедзічнаму Рурыкавічу, не раўня. «Зусім наадварот,— адзначыў Баторы,— бо ён створаны царом у лоне жанчыны, а я стаў каралём на полі бітвы».*

*Працяг будзе.*

## НА ХВАЛЯХ БТ

**10 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР**

8.55. Тэлебачанне — школе. Выпускны экзамен па беларускай і рускай мовах за курс сярэдняй школы.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Пазіцыя ўрада.
21.00. Панарама.
22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
23.20. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**11 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Фільмы кінарэжысёра У. Бокуна. «Без эпітафіі».
21.00. Панарама.
23.15. НІКа.
23.30. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**12 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА**

12.15. Дабрачынны канцэрт у фонд «Дзеці Чарнобыля».
14.20. Адраджэнне. Культурна-асветніцкая праграма.
19.25. Фільмы кінарэжысёра У. Бокуна. «Справа Ігнатоўскага».
21.00. Панарама.
23.05. НІКа.

**13 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

18.35. Студыя «Тэлесябрына». «За кім будучыня...»
18.45. Фільмы кінарэжысёра У. Бокуна. «Ніколі я не паміраў».
20.00. Панарама.




## Д. ДЖАРВІС: Калій і яго значэнне

Адно з тлумачэнняў універсальнасці ўжывання яблычнага воцату ў якасці лекавага сродку ў народнай медыцыне — гэта яго здольнасць звязваць з каліем такія мінеральныя элементы, як фосфар, хлор, натрый, магній, кальцый, сера, жалеза, фтор, крэмній і шэраг мікраэлементаў. Вядомая прыказка кажа: «Еш па яблыку ў дзень, і не давядзецца выклікаць урача». Яе сутнасць у тым, што яблыкі валодаюць гаючымі ўласцівасцямі. Яблычны воцат утрымлівае ўсе названыя вышэй мінеральныя рэчывы, якія ўваходзяць у састаў яблыка. Метады тэрапіі, заснаваныя на ўжыванні яблычнага соку або яблычнага воцату, аднолькава эфектыўныя, паколькі кожны з гэтых прадуктаў з'яўляецца крыніцай каштоўных мінеральных элементаў. Калі вы вывучыце ўплыў воцату розных відаў, вы зразумееце, што ні адзін з іх не дае такога эфекту пры лячэнні немачаў, як яблычны. Аналагічным яблычнаму ў якасці лекавага сродку з'яўляецца вінны воцат. Для скарыстання ў медыцынскіх мэтах яблычны воцат гатуецца з дробна нарэзаных яблыкаў (воцат, які бывае ў продажы, не прызначаны для лячэбных мэт).

Пры перапрацоўцы цэлых яблыкаў у яблычны воцат гаючыя ўласцівасці апошніх захоўваюцца. Важна дакладна ведаць характар дзеяння воцату ў стрававальным тракце і чаму чалавек, які выпівае за кожнай ядой шклянку вады з дзвюма чайнымі лыжачкамі воцату, забяспечвае добрае функцыяніраванне ўсяго арганізма. Каб паназіраць, як дзейнічае яблычны воцат на жывую бактэрыяльную флору, трэба пакласці дажджавога чарвяка на цвёрдую паверхню і абліць воцатам. Спярша ён скурчыцца, як ад болю, праз некалькі секунд знерухомее. Яшчэ праз некалькі секунд з ружовага ператворыцца ў белага. Яго забіў воцат за некалькі секунд. Такім жа чынам яблычны воцат разбурае бактэрыі ў стрававальным тракце. Яшчэ адзін прыклад. На абед падалі нясвежую рыбу. Адзін з прысутных быў абачлівым і выпіў разведзены ў вадзе воцат. З ім нічога не адбылося, бо воцат прадэзінфіцыраваў яго страўнік і кішэчнік. Астатнія захварэлі.

Што рабіць у выпадку харчовага атручвання, а менавіта пры ванітах і паносе? Трэба прымаць яблычны воцат з вадой на працягу сутак. Піць вадкасць невялікімі глыткамі праз кожныя пяць мінут. Адной шклянкі павінна хапіць на 3—4 гадзіны. У першую шклянку з вадой дабаўляецца адна чайная лыжачка воцату, у наступныя — па дзве. На другія і трэція суткі трэба выпіваць шклянку воцатнай вады за кожнай ядой, і справы хутка пойдуць на лад. Калі па нейкай прычыне арганізм не прымае воцату, трэба піць яблычны сок.

А цяпер звернем увагу на дабратворнае ўздзеянне яблычнага воцату на ныркі і жоўцевы пузыр. Пры запаленні нырак (піеліце) у пробе мачы хворага, якая бярэцца пасля ночы, прысутнічаюць клеткі гною, на дне посуду збіраецца чырвоны парашкападобны асадак. Сімптомы запалення знікаюць, калі прымаць штодзённа за кожнай ядой дзве чайныя лыжачкі воцату на шклянку вады. Хвароба можа вярнуцца праз паўгода-год, калі хворы кідае піць воцат, думаючы, што ён яму больш не патрэбен.

Вядома, што многіх людзей турбуюць розныя немачы: хранічная стамляльнасць, хранічны галаўны боль, у тым ліку мігрэнь, высокі крывяны ціск, галавакружэнне і асабліва, з-за яго сувязі з сэрцам, атлусценне. Калій і звязаныя з ім мінеральныя рэчывы адыгрываюць вялікую ролю ў лячэнні гэтых хвароб народнай медыцынай. Спынімся больш дэталёва на назіраннях, якія правёў у гэтым накірунку Д. Джарвіс.

## Афарызмы

**Мілан ТОДАРАЎ.**

Нам ужо гэтулькі разоў было лепш, што зараз няма чаго страчваць.

Гэта не культ асобы. Партрэты на сценах, каб народ не глядзеў у пустое.

Гумовая дубінка прызначаецца тым, хто не верыць, што кій мае выхаваўчае значэнне.

Мы наўмысна збяднілі дзяржаву, каб ніхто не мог эксплуатаваць нашы багацці.

Пераклаў з сербскахарвацкай **Іван ЧАРОТА.**



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8504 асобнікі.

Зак. 275.

Падпісана ў друк 7.06.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.